БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

21 ліпеня 1994 г.
Чацвер
№ 79(13796)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года





## Кур'ер "ЧЗ"

### Шоу павінна працягвацца

*Пасля разбурэння звышдзяржавы нованаўтвораныя незалежныя краіны рушылі далей паасобку. Хаця праз даволі кароткі час стала відавочным, што іх шлях да дэмакратыі і рыначнай эканомікі вызначаецца падобнымі адметамі, што на гэтым шляху больш агульнага, чым супрацьлеглага. У шэрагу такіх канкрэтных агульных тэндэнцый — прэзідэнцкая форма кіравання. Адной з апошніх прыйшла да прэзідэнцтва Беларусь.*

Ломка савецкіх стэрэатыпаў, знікненне камуфляжнай заслоны перад авансцэнай рэальных палітычных падзей дазволілі мільёнам назіраць за дзеяннямі палітыкаў не праз ружовую прызму ангажыраванай прапаганды. Пазаўчора Украіна, учора Беларусь мелі магчымасць сачыць за інаўгурацыяй Леаніда Кучмы і Аляксандра Лукашэнкі. Калі ў суседняй славянскай рэспубліцы абраны ўжо другі нацыянальны кіраўнік-прэзідэнт, на Беларусі прывядзенне да прысягі народнага прэзідэнта адбылося ўпершыню. Першаму заўсёды цяжка. Таму і хочацца пажадаць Аляксандру Лукашэнку здзяйснення таго, аб чым ён гаварыў у сваёй кароткай прамове на ўрачыстай цырымоніі. Гаварыў ён аб згодзе ў грамадстве, аб дасягненні ўзаемаразумення паміж рознымі палітычнымі плынямі, аб сваёй мары зрабіць жыццё беларускага народа лепшым не пазней, чым праз год. Можна не сумнявацца, што першы прэзідэнт дзеля гэтага не пашкадуе сіл, былі б сапраўдная згода і рух у правільным накірунку. Дарэчы, у віншавальным хоры прагучалі і ноты перасцярогі і заклапочанасці менавіта тым, які напрамак, вектар памкненняў новай улады стане магістральным. Лідэры парламенцкай апазіцыі Зянон Пазьняк і Алег Трусаў зачыталі на сесіі заяву дэпутатаў ад БНФ і зварот выканаўчага камітэта і фракцыі БСДГ да прэзідэнта. Што ж, палітычнае жыццё працягваецца, усё зразумела. Тым больш, вельмі хутка грымнуць парламенцкія выбары. Show must go on. Шоу і будзе працягвацца, але пакуль ёсць спадзяванні на яго другараднасць, бо галоўнае — не шоу, а рэальнае жыццё народа і рэальныя крокі палітыкаў ва ўладзе. Мабыць, таму і ўрачыстасці з нагоды прэзідэнцкай прысягі не вызначаліся вялікай пампезнасцю.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Рэспубліка Беларусь – генератар ідэй?

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў Генеральнага дырэктара Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці Арпада Бокшу, які знаходзіцца ў Мінску.*

Высокага госця цікавіў ход прыватызацыі ў Беларусі, на што А.Лукашэнка заўважыў: "Працэс прыватызацыі ў нашым грамадстве незапатрабаваны. Ніхто не падрыхтаваў да гэтага людзей. У выніку прыватызацыя ў рэспубліцы ператварылася ў прыхватызацыю. У сувязі з гэтым працэсы карупцыі набылі страшэнныя маштабы. І я не хачу, каб цяперашнія элементы прыватызацыі сталі асновай новых узрушэнняў і рэвалюцый".

У заключэнне Прэзідэнт Беларусі запэўніў А.Бокшу, што ён зробіць усё для таго, каб ператварыць нашу дзяржаву ў генератар ідэй. Са свайго боку Арпад Бокш паабяцаў аказаць дапамогу ў стварэнні праграмы пад умоўнай назвай "Рэспубліка Беларусь — генератар ідэй".

**БЕЛІНФАРМ.**

### Спяём, сябры!

*19 ліпеня ў Віцебску ўрачыста адкрыўся трэці Міжнародны фестываль "Славянскі базар". А.Пугачова, Ф.Кіркораў, В.Казачэнка, Л.Доліна, Т.Гвердцытэлі і многія іншыя зоркі эстрады прымуць удзел у святочных канцэртах.*

Але галоўным момантам свята, безумоўна, павінен стаць конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Сёлета Віцебск прыме 16 удзельнікаў з 13 краін. Краіны-арганізатары — Беларусь, Расія і Украіна — маюць права прадставіць да ўдзелу ў конкурсе па 2 выканаўцы. Гонар Беларусі будуць "адстойваць" гамяльчанін Сяргей Сількевіч і Аксана Пятрова з Віцебска. Трэба дадаць, што тут у Віцебску сваё 25-годдзе адзначаць нашы "Песняры".

Прафесійнае журы ўзначаліць славуты Мішэль Легран, які, дарэчы, сёння на сваім уласным самалёце прылятае ў Мінск. Аднак акрамя прафесіяналаў абрана і глядацкае журы ў складзе 5 чалавек.

Апошняе, пра што трэба сказаць, — кошт білетаў на канцэрты. Ён вагаецца ад 10 да 480 тысяч "зайцоў".

**Майя ШЭНДРЫК.**

### Мэта – нацыянальнае прымірэнне

*Для знаёмства з маладзёжнымі партыямі і рухамі Беларусі 25 ліпеня ў Мінск прыбывае дэлегацыя Франка–германскага Дома грамадскай арганізацыі, дзейнасць якой фінансуецца ўрадамі Францыі і Германіі.*

Распрацаваўшы ў мінулым годзе сумесную праграму, маладыя энтузіясты трох краін дамовіліся разам вырашаць свае праблемы. У прыватнасці, Франка-германскі Дом ставіць канчатковай мэтай нацыянальнае прымірэнне паміж Францыяй і Германіяй, а цяпер і Беларуссю. У апошні час германскім бокам было прынята нямала спроб змяніць аблічча нямецкага народа ў свядомасці сусветнай грамадскасці, таму што ў большасці нацый яно асацыіруецца з мінулай вайной. Такую мэту ставяць нямецкія хлопцы і ў Беларусі.

У верасні ў Мінску адбудзецца трэцяя сустрэча прадстаўнікоў Франка-германскага Дома з актывістамі маладзёжных рухаў нашай рэспублікі.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Усход нам робіцца бліжэй?..

*Кожную суботу цяпер мы маем магчымасць пабываць у легендарнай краіне руж — Сірыі.*

Сірыйская турфірма "Адая Трэвел", акцыянернае таварыства "Белінтурыст" і фірма "Алатан — Авіятур" упершыню адкрываюць прамыя авіярэйсы "Мінск — Дамаск —Мінск".

**Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.**

### Кветкі і прэміі – "Маладзёжцы"

*Транснацыянальная радыкальная партыя, якая праводзіла на працягу года конкурс на лепшыя журналісцкія работы па тэме "За гуманізацыю грамадства і адмену смяротнай кары", вызначыла пераможцаў.*

Дзве першыя прэміі, як адзначалася ў час урачыстай цырымоніі іх уручэння пераможцам, у пэўным сэнсе спазніліся. Паколькі іх атрымалі былы галоўны рэдактар былой радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" Жанна Літвіна і радыёжурналіст Уладзімір Дзюба. Яго серыя рэпартажаў з месцаў турэмнага зняволення збірала самыя вялікія аўдыторыі радыёслухачоў.

Лаўрэатам трэцяй прэміі стаў урач, кіраўнік цэнтра псіхалагічнага самаўдасканалення і сацыяльна-культурнага праектавання Канстанцін Сяльчонак за серыю артыкулаў пра смяротную кару. Заахвочвальную прэмію журы прысудзіла доктару гістарычных навук Анатолю Сарокіну.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Курсы валют на 20 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 27160 | 27860 | 17460 | 17800 |
| "Прыор" | 27250 | 27700 | 17560 | 17860 |
| "Пошук" | 27250 | 27900 | 17500 | 18000 |

*20 ліпеня 1994 года першы Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Рыгоравіч ЛУКАШЭНКА прыняў прысягу.*



**Прысяга першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

"Заступаючы на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся служыць народу Рэспублікі Беларусь, выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі".

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## Адзіная дыктатура — гэта дыктатура закона

□ **Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"**

Авальная зала Вярхоўнага Савета ў гэты дзень выглядала надзвычай урачыста. І такой запоўненасці яе не было ўжо даўно. Самі дэпутаты сабраліся на нечарговую сесію амаль што ў поўным саставе. 318 чалавек засведчыла сваю прысутнасць пры рэгістрацыі. Гасцявыя ложы ледзь умяшчалі жадаючых стаць сведкамі цырымоніі, а на балконе, дзе размясцілася пішучая брацыя, увогуле не было дзе яблыку ўпасці.

Гэткая ўвага да некалькіхвілiннай клятвы ўсеагульнаабранага кіраўніка Беларусі тлумачыцца, думаецца, не толькі літарай афіцыйнага пратакола, але і жаданнем улавіць скрыты сэнс слоў, рухаў, выразаў першай асобы дзяржавы, якія б указалі на тое, чаго чакаць у палітычным жыцці рэспублікі далей.

Адзіная дыктатура, якую прызнае наш Прэзідэнт, як адзначыў ён сам, прымаючы прысягу, — гэта дыктатура закона. Менавіта гэта думка спадабалася маршалу польскага Сойма, які ў сваім віншавальным выступленні заўважыў, што такім жа прынцыпам карыстаецца і кіраўніцтва Польшчы.

Віцэ-прэм'ер Расіі Аляксандр Шохін, беручы слова на цырымоніі, не абышоў такую важную для Беларусі праблему, як аб'яднанне грашовых сістэм. На яго думку, распрацаваўшы, хаця і з цяжкасцямі, пакет дамоўленасцей аб гэтым, неразумна спыняцца на паўшляху. Такім чынам, можна зразумець, што з прыходам новага лідэра ў нашай дзяржаве, не адбудзецца рэзкай змены курсу ўсходняга суседа да развіцця двухбаковых эканамічных адносін.

Свае віншаванні з нагоды прыняцця прэзідэнцкай прысягі Аляксандру Лукашэнку таксама выказалі прадстаўнікі Літвы, Грузіі, Малдовы, Украіны.

Лідэры буйных палітычных партый Беларусі Зянон Пазьняк (БНФ) і Алег Трусаў (БСДГ) скарысталі ў гэты дзень трыбуну Вярхоўнага Савета не толькі з тым, каб павіншаваць Прэзідэнта, але і выступіць з пэўнымі палітычнымі поглядамі на сітуацыю, што склалася ў рэспубліцы. Вядома, іх прынцыпы не ва ўсім падзяляе абраны Прэзідэнт, і можна, бадай, спрагназаваць сітуацыю, калі не аднойчы ў гэтай жа зале яшчэ сутыкнуцца супрацьлеглыя пазіцыі Прэзідэнта і яго апанентаў.

Самую арыгінальную параду ў віншавальным слове, на наш погляд, Аляксандру Лукашэнку даў старшыня Беларускага таварыства інвалідаў па зроку Анатоль Нятылькін: "Слухайце ўсіх і рабіце па-свойму". Ці скарыстае Прэзідэнт гэту прапанову — пакажа час. Дагэтуль жа, трэба адзначыць, яго паводзіны ў многім адпавядалі такому прынцыпу.

З учарашняга дня пастаяннае рабочае месца прэзідэнта пад час парламенцкіх дэбатаў будзе знаходзіцца асобна, недалёка ад прэзідыума сесіі.

Сёння сесія Вярхоўнага Савета працягне сваю работу. Мяркуецца, што Аляксандр Лукашэнка выступіць з дакладам, а таксама ўсе мы спадзяёмся, што парламенту, нарэшце, будуць прадстаўлены кандыдатуры членаў новага Кабінета Міністраў.

## "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

### КАТАСТРОФА Ў НЕБЕ ПАНАМЫ

*21 чалавек загінуў у выніку выбуху на самалёце панамскіх авіяліній*

Самалёт узарваўся ў паветры за 70 кіламетраў ад сталіцы. Сярод 19 пасажыраў — бізнесмены яўрэйскага паходжання, якія працавалі ў свабоднай зоне Панамскага канала.

### "ЧОРНЫ" АЎТОРАК

*Страшная трагедыя адбылася ў французскім гарадку Шацільён–сюр–Шалерон.*

У аўторак мясцовы 40-гадовы сталяр забіў сваю жонку і чацвярых дзяцей ва ўзросце ад 3 да 12 гадоў. Потым ён "наведаў" свайго сябра і задушыў яго. Толькі пасля гэтага забойца скончыў жыццё самагубствам.

### РПФ СПЫНЯЕ АГОНЬ?

*Руандзійскі патрыятычны фронт (РПФ) аб'явіў аб аднабаковым спыненні агню.*

Гэтая заява была зроблена лідэрамі РПФ пасля таго, як яны аб'явілі аб сваёй канчатковай перамозе над урадавымі войскамі.

### ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ ПАСЛЯ ПРАГУЛКІ ПА МЕСЯЦЫ

*25 гадоў мінула з гістарычнага моманту, калі чалавек упершыню ступіў на Месяц.*

Першы жыхар Зямлі, які "прагуляўся" па Месяцы, быў амерыканскі астранаўт Нэйл Армстронг. Гэта адбылося 20 ліпеня 1969 года. На здзіўленне нешматлікім з'яўляецца клуб "месяцавых касманаўтаў" — усяго 12 чалавек пакінулі адбіткі сваіх ног на паверхні Месяца. Першая ж прагулка працягвалася 2 гадзіны 30 хвілін.

### АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ

*У сераду грэкі і кіпрыёты — жыхары Кіпра — спынілі на 5 хвілін працу.*

У 5.20 раніцы па ўсяму востраву прагучала сірэна — роўна 20 гадоў таму турэцкія войскі акупіравалі паўночную частку вострава. У 10 гадзін спыніўся рух транспарту, на вуліцы выйшаў вялізны натоўп. У акцыі пратэсту прынялі ўдзел больш за 600 тысяч чалавек.

### ТАЙНЫ КАМБАДЖЫЙСКАГА ДВАРА

*Улады Малайзіі жадаюць як мага хутчэй пазбавіцца ад прынца Чакралонга, сына караля Камбоджы Нарадома Сіанука.*

Чакралонг нядаўна паспрабаваў здзейсніць дзяржаўны пераварот і быў высланы з Камбоджы. Паспешлівасць улад цяпер тлумачыцца тым, што ў Малайзію сабраўся з афіцыйным візітам камбаджыйскі прэм'ер. Кіраўнікі Малайзіі намагаюцца пераканаць Францыю прадаставіць сховішча Чакралонгу.

### АПЕРАЦЫЯ "10–10–10"

*У Пентагоне ўжо прыдумалі назву для магчымай аперацыі на Гаіці — "10–10–10".*

Амерыканскія ваенныя лічаць, што спатрэбіцца 10 хвілін для высадкі, 10 дзён, каб заняць усю краіну і 10 год, каб выбрацца адтуль. У Пентагоне ніхто не сумняваецца, што высадка пройдзе паспяхова. Не сумняюцца, аднак, і ў тым, што амерыканцы загразнуць у багне міжфракцыённай барацьбы, палітычнага гвалту і звычайнага крыміналу, якія падаюцца непазбежнымі.

### ЗАМАХ... З КРЫВАВЫМ ШЛЕЙФАМ

*У Германіі адзначаецца 50–годдзе замаху на Гітлера.*

Менавіта пасля жорсткага паражэння Вермахта пад Сталінградам многія нямецкія афіцэры вырашылі, што толькі фізічнае знішчэнне Гітлера дапаможа Германіі пазбегнуць ваеннай катастрофы.

Як вядома, змова правалілася, пасля чаго па ўсёй тэрыторыі пракацілася крывавая чыстка. Без суда былі расстраляны тысячы ваенных чыноў, у тым ліку — некалькі соцень генералаў.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## Забіў не па сваёй віне

*Летась, напярэдадні свята Кастрычніка, жыхар вёскі Майсеевічы Петрыкаўскага раёна В.Парошын набыў у краме бутэльку віна. Калі выйшаў на вуліцу, аднавяскoвец У.Белкавец выхапіў яе і ўдарыў нагой пад жывот. Калі Парошын упаў, брат Белкаўца дадаткова стукнуў пацярпеўшага нагой у грудзі.*

Тым не менш, В.Парошын неўзабаве ўсхапіўся, высмыкнуў з рук у крыўдзіцеля сваю пакупку і кінуўся дахаты.

Браты, што былі на добрым падпітку, выманілі яго з хаты і зноў пачалі бойку. Суседцы ўдалося выгнаць няпрошаных гасцей з двара.

Задаволены гаспадар вырашыў супакоіць сябе чаркай віна. Аднак закусіць не паспеў: У.Белкавец літаральна штурмам узяў дзверы ў яго верандзе. Калі ён зрабіў крок насустрач, В.Парошын у адчаі ўдарыў яго нажом у шыю.

Старанна вялося следства. На падставе яго матэрыялаў і паказанняў сведак райнарсуд прызнаў правамернасць дзеянняў па абароне сваёй годнасці і вынес апраўдальны прыгавор.

Калегія абласнога суда з ім цалкам згадзілася.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

## ІНФА-КРЫМ

## Міліцыя глядзіць, а ўлады?

*Апошнімі днямі прадукты харчавання ў Віцебску зноў адпускаюцца па візітных картках ці пашпартах. Купіць белы хлеб стала практычна немагчыма. Прылаўкі магазінаў пусцеюць у імгненне вока, злуюцца гараджане і кідаюць з дакорам: "Куды глядзіць міліцыя?"*

Думаецца, лепш бы пытацца: "Куды глядзяць улады?". Бо міліцыя, у меру магчымасцей, глядзіць якраз нядрэнна. Толькі за 3 дні гэтага месяца ёй прадухілены вываз харчовых тавараў на 500 мільёнаў рублёў. За парушэнне ўстаноўленага парадку правядзення валютных аперацый канфіскавана 520 даляраў ЗША, 10 мільёнаў расійскіх рублёў і 50 мільёнаў разліковых білетаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Так, аддзелам унутраных спраў Міёрскага райвыканкама прадухілены вываз у Латвію 480 кілаграмаў каўбасы на суму 9.171000 рублёў, які арганізоўвалі буфетчыца піўбара райспажыўсаюза Дзямешка і прадавец магазіна Міёрскага спажывецкага таварыства Фурсо.

Не пабаяўся граху перад Богам і пенсіянер Валашкевіч з Полацкага раёна. З яго машыны ГАЗ-53 ліквідавана 1938 буханак хлеба. У параўнанні з ім усе астатнія — дробязь, бо вывозілі па 50—150—250 булак, што за тры дні канфіскацыі склала 5.941 адзінку.

Па сырах і іншых малочных прадуктах вызначыўся на Віцебшчыне "паляўнічы" з Гродзенскай вобласці Г.Бубен. Ён вывозіў на продаж 140 кг сыра, 70 кг сухога малака, 15 кг тварагу, 20 банак маянэзу.

Непрацуючы жыхар з Мінска Макоўскі на асабістай машыне вывозіў у Смаленскую вобласць 350 кг смятаны.

Вадзіцель ВА "Фармацыя" В.Банічаў з Віцебска вёз у гэтыя дні 277 кілаграмаў агуркоў, 106 кілаграмаў гэтай гародніны вывозіў і старшыня прафкама "Рудакова" А.Гушчанка, 95 кг агуркоў і 13 кг кабачкоў — галоўны аграном гэтай гаспадаркі Э.Куртан.

Па 160 кг масла, сыра і тварагу было затрымана пры вывазе ў Пскоўскую вобласць М.Івашкевічам і М.Траскоўскім.

Цікава, па якіх візітных картках гэта ўсё адпускалася? І ці не ўдзячны перакупшчыкі за зніжэнне цэн на час перадвыбарчага марафону нашаму прэм'еру? Можа, яму было б карысней падумаць аб нейкіх, хоць частковых, датацыях на прадукты харчавання пры павышэнні ўзроўню цэн да расійскіх, што выдаваліся б грашамі. А не "зніжаць" цэны да ўзроўню, калі асноўная маса насельніцтва застаецца без хлеба ўвогуле, ды ці толькі хлеба?

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

## ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# З юбілеем!



Спектакль "Людзі на балоце" — залаты фонд Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, яго класіка. З нараджэннем гэтай пастаноўкі звязана многае ў творчасці народнага артыста рэспублікі Генадзя Міхайлавіча Гарбука. Хоць сустрэча з мележаўскай "Палескай хронікай" пачалася значна раней. Была радыёпастаноўка, потым тэлеспектакль, у якім яго работа адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

— Роля Васіля Дзятліка мне вельмі дарагая, — гаворыць артыст. — Яна ў маім творчым жыцці — першая вялікая ўдача. Што ні раблю, усё параўноўваю з Васілём... Я шчаслівы, што значную частку творчага жыцця быў звязаны з "Палескай хронікай"...

Г.М.Гарбук нарадзіўся ў вёсцы Глыбочка Ушацкага раёна. Па яго дзяцінству прайшла вайна. Калі фашысты блакіравалі партызанскае злучэнне, сям'я пайшла ў лес, да бацькі Міхаіла Ануфрыевіча. У дзесяць гадоў хлопчык зведаў, што такое бяда. Гэта не магло не пакінуць след. Магчыма, таму ёсць у мастацтве Гарбука нявыказаны, несціханы боль.

Вучыўся ён у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце ў народнага артыста рэспублікі Д.А.Арлова.

— Мне вельмі пашанцавала, — расказвае Генадзь Міхайлавіч, — што першым Настаўнікам быў у мяне Дзмітрый Аляксеевіч. У пачатку кожнай новай работы ён гаварыў нам: "Чым вы можаце здзівіць гледача? Толькі глыбокай думкай. Палымяным пошукам вашымі героямі сэнсу жыцця". І сёння перад кожнай сваёй новай роляй я паўтараю гэтыя словы Настаўніка.

Чатыры гады пасля заканчэння інстытута Г.Гарбук працаваў у тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску, а з 1962 года ён — купалавец. Тут мы бачылі яго Васілём у "Людзях на балоце", Сымонам ("Раскіданае гняздо"), Келінам ("Святая святых"), Сіплым ("Аптымістычная трагедыя") і сёння бачым Холадам ("Час ахвяры"), Юткам ("Вежа"), Лайзерам ("Памінальная малітва") і ў многіх іншых ролях, якія ўвайшлі ў творчае багацце тэатра і артыста.

Больш як трыццаць гадоў выходзіць ён на сцэну, сыграў многа персанажаў. Паспяхова працуе Гарбук і ў кіно. Мы бачылі яго ў стужках студыі "Беларусьфільм": "Чорны замак Альшанскі", "Белыя Росы", "Людзі на балоце" і многіх іншых. Але калі гаварыць пра ўдачу і творчы лёс, то не колькасцю сыграных ролей вызначаюцца яны, не часам, праведзеным на сцэне, а ўсведамленнем сутнасці сваёй прафесіі, яе тайны.

— Чым больш ты назапасіў у сваім сэрцы, тым больш аддасі людзям, — гаворыць Генадзь Міхайлавіч. — Усё астатняе — толькі сродак для дасягнення мэты. Прыгожы ты — добра, статны — выдатна, голас добры — цудоўна. Але ўсё гэта важна толькі тады, калі ты ведаеш, што нясеш людзям, дзеля чаго выйшаў на сцэну. І самае важнае — выявіць сацыяльную падаплёку вобраза, прасачыць сувязі з асяроддзем, з якога ты выйшаў.

— Прафесія акцёра толькі тады мае сэнс, калі ёсць магчымасць іграць, здымацца, чытаць па радыё, з эстрады,— працягвае артыст. — Сустракаючыся з рознымі рэжысёрамі, акцёрамі ў кіно, на тэлебачанні, назіраючы манеру гульні, мы пастаянна ўзбагачаем сваё майстэрства. Але, тым не менш, почырк роднага тэатра захоўваем заўсёды.

— Ну, а што да планаў, — усміхнуўся Генадзь Міхайлавіч, — вось пачалі рыхтаваць спектаклі па п'есе Францішка Аляхновіча "Манька", але пакуль рэпетыцыі спынены: няма грошай на дэкарацыі. Так што, завяршаць работу над пастаноўкай будзем у наступным сезоне. А пра ролю я змагу сказаць толькі тады, калі яе сыграю...

...Мінаюць гады. Надыходзяць і праходзяць юбілейныя даты. І толькі назаўсёды застаецца з артыстам яго талент, яго творчасць.

**Зоя ФЕДЧАНКА,**

■

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.**

## СА СКРЫЖАЛЯЎ 1994 ГОДА

***

Спаўняецца 950 гадоў Навагрудку. 1044 годам пазначаны першыя весткі пра Новагародак (Ноўгарадзец, Ноўгарад, Ноўгародак). Амаль 300 гадоў прайшло, перш чым пра яго згадаў летапісец. У 1252г. горад стаў рэзідэнцыяй вялікага князя Міндоўга. У 1253г. Міндоўг каранаваўся ў Навагрудку, прыняў тытул караля.

У 1255, 1274, 1278 гадах адбіваў напады мангола-татараў. У 1314, 1321, 1341, 1390, 1394 гадах паспяхова змагаўся з нямецкімі рыцарамі-крыжаносцамі.

У 1274 г. галіцка-валынскі князь Леў Данілавіч з татарскім войскам разбурыў акольны горад, але дзядзінец узяць не змог. На працягу 100 гадоў ніводнаму з заваёўнікаў узяць крэпасць так і не ўдалося.

600 гадоў назад (1394) Навагрўдак становіцца адным з цэнтраў велікакняжацкага домена (вотчыны); у 1415 рэзідэнцыяй праваслаўнага мітрапаліта; у 1511 г. атрымлівае Магдэбургскае права (права на самакіраванне).

З 1795 г. — Навагрудак у складзе Расійскай імперыі. Былая сталіца магутнейшай еўрапейскай дзяржавы становіцца цэнтрам павета.

190 гадоў назад шляхціц Мікола Міцкевіч купляе ў Навагрудку сядзібу... Навагрудскі перыяд жыцця даў геніяльнаму Адаму Міцкевічу вельмі многа цікавейшых тэм для напісання такіх твораў, як "Мешка — князь Навагрудскі", "Свіцязь", "Свіцязянка", "Гражына" і іншых.

70 гадоў назад у Навагрудку пачалі ўзводзіць Курган Неўміручасці ў гонар Адама Міцкевіча. Зямля для Кургана была дастаўлена з Чылі, Аргенціны, Кракава, Львова, Парыжа, Стамбула...

***

825 гадоў таму назад узведзены ў чын епіскапа на тураўскай кафедры Кірыла (Тураўскі) — філосаф, паэт, прапаведнік, вялікі гуманіст старажытнасці.

Кірыла нарадзіўся ў 1130 (?) годзе ў сталіцы самастойнага Тураўскага княства, якое разам з Полацкім княствам заклала падмуркі беларускай дзяржаўнасці. Любоў да асветы і непрыняцце тленнай славы і багацця мірскога жыцця прыводзіць яго ў манастыр. Потым Кірыла праводзіць — упершыню ў славянскім свеце — подзвіг стоўпніцтва: замуроўвае сябе ў вежу (стоўп), дзе няспынна моліцца, пасціць, чытае кнігі і піша свае творы.

Пасля таго, як Кірыла прыняў чын епіскапа (1169), ён праславіўся як незвычайны прамоўца і таленавіты аўтар "слоў", павучанняў, пропаведзяў, прыпавесцяў, малітваў, канонаў.

Памёр Кірыла 810 гадоў назад — 28 красавіка 1184 (?) года. Пасля смерці быў залічаны да ліку святых.

Літаратурная спадчына Кірылы Залатаслова ўнесла вялікі ўклад у распрацоўку літаратурнае мовы ўсходнеславянскага свету, яго дзейнасць паўплывала і на культурныя традыцыі Беларусі. Нездарма ўніклівы Максім Багдановіч зазначаў, што "беларускі народ, цалкам увайшоўшы ў Літоўскую дзяржаву, развіваўся, як і раней, на старым корані, вытвараючы такім парадкам культуру, незалежную ад культуры велікарускай і з самага ж пачатку адражняўшуюся ад яе".

Прадаўжальнікі подзвігу святога свяціцеля Кірылы Тураўскага сталі на нашых землях Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Лаўрэнцій Зізаній, Афанасій Філіповіч, Сімяон Полацкі і іншыя.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

## ЗАМАЛЕЎКІ З НАТУРЫ

# Парасятка

Жыве Матруна ў канцы вёскі. Жыве адна. Хатка ў яе маленькая, прысадзістая, з замшэлым дахам. І гарбатая, як сама гаспадыня. Гэту хату адразу пасля вайны сыны, тады яшчэ хлапчукі, з тонкіх бярвенцаў скінулі. Плот гнілы, пахілены, вароты раструшчаны. На дворы замест дроў — галлё, якое старая нацягала на сабе з лесу.

Сыноў у яе трое. Усе ў горадзе жывуць. Пісьмы не пішуць, да Матруны не наведваюцца. Раней, калі яна была пры здароўі, трымала карову, свіней і курэй, прыязджалі да маці, а цяпер — не. Так і жыве адна ўжо сорак гадоў. Пенсія невялічкая, перабіваецца з хлеба на квас.

Матруна апошні год не распускала свае "зайчыкі", збірала іх, каб купіць на кірмашы парася.

Паехала ў мястэчка і, нарэшце, купіла. І нібы адразу паздаравела: пажвавела, не магла ад радасці знайсці сабе месца ні ў хаце, ні на двары.

Прыбегла зірнуць хоць адным вокам на парасятка суседка Прося.

— Прывезла? — яшчэ з варот пацікавілася яна.

— А як жа! Ужо ў хляве чмыша... Такое маленькае, пацешнае! Ну, як малое дзіця.

Матруна ўсміхнулася. На маршчыністым сухенькім твары заблішчэлі блакітныя вочкі.

— А паглядзець можна? — шэптам, нібы баялася патрывожыць жывую істоту, спыталася суседка. — Не бойся, не сурочу.

— А я і не баюся. Ведаю, што ў цябе вочы добрыя, — таксама ціха азвалася Матруна.

І яны крадком, на дыбачках, каб не напалохаць парася, пайшлі да хлеўчука, адчынілі варотцы.

Маленькі ружовы вепручок, нібы дзіця, якое толькі што адарвалі ад матчыных грудзей, стаяў на беленькіх капыціках і, убачыўшы ў варотцах святло, радасна піскнуў. Ён паспрабаваў было ступіць насустрач Матруне і Просі, але заблытаўся ў саломе і паваліўся набок.

— Які прыгажунчык! — не магла надзівіцца Прося на парася. — Чысценькі, дагледжаны. Ну, як лялька! І гладзенькі. І як ты такога выбрала на кірмашы?

— Доўга там тупала, але выбрала, — пахвалілася старая. — Бачу, дзед сядзіць у капелюшы... А ля яго ног ляжыць і варушыцца, нібы жывы, мех. "Мо парасятак прадаяце?" — пытаюся. "Усе ўжо прадаў, — адказвае. — Толькі адно засталося". І разгарнуў мяшок. Зірнула я на парасятка, пацанавалася — дорага просіць. Дай, думаю, яшчэ па кірмашы паблытаюся, можа таннейшага парсючка надыбаю. І, верыш, толькі ступіла крок ад таго дзеда — парсючок як завішчыць, хоць вушы затыкай... Гэта ён так плакаў, мяне да сябе клікаў... Спынілася, яшчэ раз на свінчо паглядзела: і ножкі роўныя, і вушкі тырчком стаяць, і галоўнае — хвосцік кручочкам. Ну, думаю, гэта мой. І не цанавалася ўжо з дзедам. Купіла...

— Пашанцавала табе, Моця. Добранькае купіла парася, — пахваліла суседку Прося. — А есці просіць?

— Яшчэ як! Верашчыць з раніцы. Я яго пойлам цёпленькім адпойваю. Мучным. З соскі. — Яна выняла з кішэні і паказала суседцы бутэльку. — Вось гэтым.

Нагнулася і тыцнула соску ў лычык парасяці. Яно прагна схапілася за соску, пачало са смакам цмокаць, павільваць ад асалоды хвосцікам-вужачкай.

— Год буду яго карміць і даглядаць, каб вялікі і гладкі вырас парсюк. Каб багата сала і мяса на ім нарасло. А потым напішу сынам: прыязджайце калоць. Ці прыедуць? Як ты думаеш? — І трывожна зірнула на суседку.

— Ого! — выгукнула Прося. — На крылах прыляцяць! І ўсё мяса і сала ў сумкі ўтопчуць. Табе толькі застануцца вушкі ды ножкі. І хвосцік у прыдатак...

— Ну і няхай. Няхай бяруць тое мяса і сала... А я зноў парасятка куплю. І буду гадаваць, каб зноў сыноў на сала прыманіць. Бачыць каля сябе іх вельмі ж хочацца...

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**



## КУР'ЁЗЫ ШМАТПАРТЫЙНАСЦІ

# Дурні скажуць свае слова

У спякотны летні дзень я сустрэўся з членам Палітвыканкама Партыі дурняў Валерыем Закалубіным. Нягледзячы на спякоту і млявасць, размова атрымалася цікавай.

— Папулярнасць нашай партыі ўзрастае. Партыя ўзнікла выпадкова, як недарэчнасць, як жарт. Мы нават самі не чакалі, што з гэтага атрымаецца сур'ёзная палітычная партыя. Палітолаг, які нядаўна далучыўся да нашай партыі, кажа, што ён назірае новую з'яву ў палітычным жыцці грамадства: праз Партыю дурняў у палітыку пачалі прыходзіць людзі, якія па ўсіх канонах класічнай паліталогіі лічыліся палітычна пасіўнымі і не жадалі прымаць удзел у палітычным жыцці грамадства ні пад якім выглядам. Наш новы сябар-палітолаг (імя яго я пакуль называць не буду) зараз працуе над афіцыйным афармленнем партыі. Ведаеце, у нас не было ніводнага прафесіянала ў палітыцы, і таму з рэгістрацыяй у нас пакуль нічога не атрымалася. Але я думаю, да выбараў у парламент мы паспеем зарэгістравацца і будзем удзельнічаць на роўных з астатнімі партыямі.

— Скажыце, Валера, ці ёсць яшчэ ў свеце партыі, падобныя на вашу?

— Мы раней не ведалі пра існаванне такіх партый. Але ў апошні час мы маем інфармацыю пра іх. Партыя дурняў існуе ў Чэлябінску, ёсць невялікія суполкі ў іншых гарадах Расіі, ёсць такія партыі і ў Прыбалтыцы. І, паводле нашых звестак, у Эстоніі Партыя дурняў нават мае сваіх прадстаўнікоў у парламенце — нешта каля пяці чалавек.

— А колькі ваша партыя мяркуе ўзяць месцаў у нашым беларускім парламенце?

— Ну, гэта будзе залежаць не толькі ад нас. Па-першае, гэта будзе залежаць ад агульнай колькасці дэпутацкіх месцаў у парламенце. Па-другое, ад таго, якім будзе новы выбарчы закон. Але мы спадзяёмся, што некалькі членаў нашай партыі ўсё ж стануць дэпутатамі. Паводле падлікаў нашага сацыёлага, нас падтрымае 5—10 працэнтаў насельніцтва.

**Гутарыў Андрусь ДЫЛЮК.**

## ПАН-БЕЛАРУСІКА

# Наша мафія ў Галівудзе

□ **Вітаўт МАРТЫНЕНКА**

***Чытачы, якія ўважліва чытаюць публікацыі пад рубрыкай "Пан–Беларусіка", пэўна, ведаюць, што беларусы жывуць практычна па ўсім свеце. Чытаючы гэтыя матэрыялы, можна было пераканацца, што і становішча ў заходнім грамадстве яны займаюць не апошняе: беларусы — не толькі парабкі заакіянскіх плантацый, але і сусветнай славы дзеячы астранаўтыкі, культуры, рэлігіі. Сусветная прысутнасць беларусаў не магла не адбіцца і на свеце кіно.***

Зразумела, гаворка зараз пойдзе не пра тое беларускае кіно, 70-годдзе якога тут нядаўна святкавалі. На жаль, дзякуючы менавіта тутэйшаму кіно пра Беларусь зусім не згадваюць у свеце кінамастацтва. Нават на 1/6 частцы сушы можна гаварыць пра адметнасць грузінскага кіно, пра вартасці і недахопы літоўскага кіно, а беларускае... Асобныя таленты накшталт Стэфаніі Станюты, на жаль, не могуць стварыць плыні, бо плынь акурат імчыцца у зусім іншым накірунку ды й з іншых крыніцаў.

Дык якая ж гаворка аб беларускім уплыве на сусветны кінематограф, калі мы і ў сябе плыні не стварылі? А падставы для гэтай гаворкі ўсё ж ёсць, і іх мог бы прыкмеціць кожны відэаман, які, гледзячы папулярныя супер-баевікі, не мінае сваёй увагай і цітры тых кінакарцін.

Для прыкладу, тыя ж нашыя суседзі — палякі, маючы такіх славутасцяў, як Раман Паланьскі, Анджэй Вайда, Кшыштаф Занусі, вядомых ў свеце менавіта як польскія рэжысёры, не абмінаюць увагай і сусветна вядомага амерыканскага апаратара Анджэя Бартковяка, які здымаў знаёмыя і нашаму гледачу фільмы "Двайняткі" з Арнольдам Шварцэнэгерам, "Руйнаванне" з Майклам Дугласам.

Не забываюць і венгры нагадаць, што штатаўскі рэжысёр Мілаш Форман калісьці збег ад іх, а чэхі памятаюць паходжанне славутага апаратара Міраслава Ондрычака, які здымаў, напрыклад, фільм рэжысёра Пэні Маршал "Іхняя ўласная ліга".

Дарэчы, у гэтым апошнім фільме і беларусы маглі б пацікавіцца этнічным паходжаннем арганізатара здымак Джона Валанчыка. Ды й у французскім кінематографе цяжка не заўважыць беларускія космы кампазітара Уладзіміра Космы.

Амерыканскі немец Арнольд Шварцэнэгер набыў вялікую славутасць ва ўсіх краінах, дык чаму ж хоць бы нам у нашай краіне не ведаць пра амерыканскага беларуса Эдуарда Варшылку, які прымаў удзел у працы над мантажом "шварцаўскага" баевіка "Чалавек, які бяжыць"?

А цікава, на якой вуліцы і якога беларускага горада жылі продкі Джона Вуліча (у прастамоўі Ян Вулічны), які рабіў спецэфекты нядаўняй экранізацыі Стывена Кінга "Цёмная палова"? Побач з ім, дарэчы, у тэхнічнай групе працавалі Гардзі Новак, Джозэй Урублеўскі (памятаеце песню С.Сокалава-Воюша "Апошні бой Валерыя Урублеўскага", дык мо яна пра дзядулю таго амерыканца). Асістэнтам жа рэжысёра быў у гэтай групе Том Дубенскі.

Нельга не прыгадаць і майстра амерыканскага рэтра-кіно Пітэра Багдановіча, які нядаўна, на подзіў сваіх фанаў, зняў круты дэтэктыў "Нелегальна твой".

Зрэшты, вельмі шмат такіх прыкладаў у заходнім відэарынку, калі нашага беларуса вельмі лёгка могуць прысвоіць сабе і палякі, і расейцы, і ўкраінцы. Напрыклад, Цім Казурынскі, які зняўся ў камедыі Майкла Дынэра "Несучыся рыссю", Стэфан Табалоўскі, які сыграў ролю Ніда Раэрсана ў фільме Гарольда Рэміса "Дзень сурка", Дэйвід Сосна, які разам з Эдзі Мэрфі прадзюсіраваў фільм "Вандроўка ў Амерыку". Але і ў нас тут ёсць свае аргументы. Скажам, праваслаўны святар на Беласточчыне Рыгор Сосна хоць і жыве ў Польшчы, але лічыць сябе беларусам, рэгулярна выступае ў тамтэйшай беларускай газеце "Ніва". Так што, прынамсі, само прозвішча — нашае.

А ёсць жа прыклады і амаль цалкам бясспрэчныя. Бадай, усе глядзелі камедыю Джыма Абрагамса "Гарачыя галовы"? А там жа не на апошніх ролях зняўся не хто іншы, як Efrem Zimbalist-малодшы. Дык мо хтосьці з Цымбалістаў-старэйшых быў цымбалістам у якімсьці тутэйшым аркестры беларускіх народных інструментаў? Не дае падстаў сумнявацца ў кроўнай роднасці і шаноўны Рэндзі Шаноўскі, адзін з асістэнтаў апаратара ў фільме Дзімітрыя Саціракіса "Вырадкі з Бэвэрлі-Гілз". А поспех апошняму фільму Джорджа Слуйзэра "Знікненне" дапамагалі заваёўваць асістэнт рэжысёра Эрык Петаркоўскі ды апаратар Пітэр (Пятрусь) Сушыцкі.

Памятаючы гітарыста беларускіх гуртоў "7 герц" і "Мроя" Алега Піпіна, іначай глядзіш і знакаміты баявік Рычарда Піпіна "Кібарг-вышуковец".

Прызнацца, я асабіста з дзяцінства захапляўся італьянскім і французскім кінематографам. І не толькі іхнімі цудоўнымі камедыямі, якія дзесяцігоддзямі не страчваюць прывабнасці. Але ёсць жа ў іх і такія гіганты інтэлектуальнага кіно, як Федэрыка Феліні, П'ер Паола Пазаліні, Бэрнарда Бэрталючы. Дык вось якая ж была радасць, калі ў таго самага Бэрталючы ў бліскучым фільме "XX стагоддзе" побач з Робертам дэ Ніро, Жэрарам Дэпардзье, заўважыў у цітрах і Катрын Касяк. Гэта ж стопрацэнтная цёзка па прозвішчы беларускага гісторыка з ЗША Івана Касяка. Так што беларусы цэлымі касякамі гуляюць па сусветным кінематографе, асабліва праславіўшы нашыя прозвішчы ў Бразіліі.

Бразільскі рэжысёр Гектар Бабенка — гіганцкая постаць у сучасным кіно. Калі вы сумняваецеся, што гэта беларускае прозвішча, дык раю вам пазнаёміцца з цяперашнім рэктарам Полацкага дзяржаўнага універсітэта Эрнэстам Бабенкам, мо ён вам раскажа і пра больш блізкія сямейныя сувязі. Увогуле, "бабёнкамі" беларускія мужыкі традыцыйна ласкава называлі сваіх жонак.

Што самае цікавае, толькі ў фільме Гектара Бабенкі "Пацалунак павучыхі" задзейнічаны цэлы касяк беларусаў (без Katherine Kasak, зразумела). Ролю той самай "павучыхі" і яшчэ некалькіх жаночых персанажаў сыграла Соня Брага. Заўважце, не Сафі і не Водка, а Sonja Braga. Касцюмы ёй распрацоўвала Зээз Брага, занята ў ролях і Ана-Марыя Брага (суцэльнае бражніцтва). Гукарэжысёрам у гэтай бразільскай кінагрупе быў Вал (Валік) Кукілоўскі, асістэнтам мастацкага кіраўніка — Соланг Масяроўскі. А адзін з асістэнтаў — Брус Маркаў — ці не сваяк гітарысту беларускага рок-гурта "Бонда" Янку Маркаву? Калі й не, дык не ўзнікае сумненняў, што ягоны калега Джоэль Папернік бярэ карані з вёскі Паперня Мінскага раёна.

Без іроніі прагучала б тут рытарычнае пытанне: што рабіў бы славуты Галівуд і ўвесь сусветны кінематограф без сыноў нашай Бацькаўшчыны? Я ўжо не кажу пра тое, што адна з буйнейшых кінафірм Захаду — "MGM" ("Metro Goldwyn-Mayer") — была заснавана беларускімі яўрэямі Голдвіным і Маерам. І не скажаш, што сусветнае кіно забывае пра гэта.

У мультыплікацыйным поўнаметражным мультфільме Дона Блата "Файвэл у Новым Свеце", які прадзюсіраваў славуты Стывен Спілберг, адзін з галоўных герояў мае імя Вялікая Мыш з Мінску. І цяжка мінчуку не адчуць у душы пачуццё гонару, калі глядзіш амерыканскі відэабестселер, дзе праз увесь экран рухаецца страшэнны волат, на якім выразна напісана Giant Mouse of Minsk. Прычым, героі фільма, правінцыялы з Шосткі, апынуўшыся ў Амерыцы, з замілаваннем прыгадваюць райскі куток — Мінск, дзе ім даводзілася сустракацца са сваёй надзеяй і апорай, гэтым самым Giant Mouse of Minsk.

Тэма гэтая ўвогуле бясконцая. І хоць мяне могуць папракнуць у тэндэнцыйнасці, але факт: падставы для такой тэндэнцыі развагажанняў маюць шырокія і глыбокія карані. Беларусу няма прычыны разглядаць сябе прадстаўніком, як спявае бард, "непісьменнага, забітага і ўшчэнт занядбанага народа". Толькі вось вяртаешся думкай на радзіму, да ейнага кіно, і міжволі зноў засумуеш, бо ў лепшых выпадках сустрэнешся з рускамоўнай фашысцка-захопніцкай немчурой, якая на КраАЗах раз'язджае па творах У.Караткевіча (гл. фільм "Чорны замак Альшанскі").

Ну што ж, затое ёсць надзея, што калісьці збяруцца разам рэжысёр Гектар Бабенка, ягоны штатаўскі калега Пітэр Багдановіч, апаратар Пятрусь Сушыцкі, кампазітар Уладзя Косма, запросяць акцёраў кшталту Соні Брагі, Цімафея Казурынскага, Стэфана Табалоўскага ды й нашай Стэфаніі Станюты, і з дапамогай крутых кінаэфектаў у стылі Джона Вуліча пакажуць свету, у чым сутнасць беларускага характару. А сюжэты лёгка знайсці і на этнічнай зямлі (у таго ж Караткевіча, Быкава, Аляхновіча), і па ўсім свеце (у канадскага Акулы, штатаўскага Сяднёва, польскага Петручука). Мо і прадзюсер знойдзецца больш прыхільны да гэтай зямлі, чым нават Спілберг.

Мае б словы ды Мінкульту ў душу.

## ЧЗ

### ЯШЧЭ КРОК ДА МІРУ

*У бліжэйшыя дні мусульманскі і сербскі парламенты Босніі–Герцагавіны прымуць канчатковае рашэнне наконт апошняга плана мірнага ўрэгулявання, прадстаўленага ім кантактнай групай, у якую ўваходзіць Расія, ЗША і Еўрапейскі Саюз.*

### ПЕРАМОВЫ Ў ІНДАНЕЗІІ

*Інданезійскі ўрад выказаў гатоўнасць правесці перамовы з партызанамі ўсходняга Цімора, акупіраванага Інданезіяй.*

### ВІЗІТ ДЗЯРЖСАКРАТАРА ЗША Ў ІЗРАІЛЬ

*Пачалася паездка дзяржсакратара ЗША Крыстафера ў Ізраіль. Адной з мэт візіту з'яўляецца спроба разблакіраваць мірныя перамовы паміж Ізраілем і Сірыяй.*

Ён сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Ізраіля і Іарданіі, і ў канцы турнэ прадугледжваецца сустрэча Крыстафера тэт-а-тэт з лідэрам АВП Ясерам Арафатам.

### "АРГЕНЦІНСКІ СІНДРОМ"

*Група ізраільскіх выратавальнікаў вылецела ў аўторак у Буэнас–Айрэс, каб удзельнічаць у расчыстцы ізраільскага цэнтра ў Аргенціне, пацярпеўшага ад выбуху, пад час якога загінула 26 і было паранена 127 чалавек.*

Прэм'ер-міністр Ізраіля Іцхак Рабін выступіў з заявай, у якой зрабіў празрысты намёк на ўдзел у тэракце мусульманскіх экстрэмістаў. Гэта ўжо другі выпадак антыізраільскага тэрору ў Аргенціне. У час выбуху ў ізраільскім пасольстве 17 сакавіка 1992 года тут загінула 30 чалавек, 200 былі паранены.

### У АБ'ЕКТЫВЕ... СУД

*Малавядомы фатограф пачаў судовы працэс супраць рок–зоркі Прынца.*

Ён абвінавачвае музыканта ў тым, што пры здымках кліпа "Самая прыгожая ў свеце дзяўчына" выкарыстоўваўся фотаздымак, які з'яўляецца ўласнасцю фатографа.

### 75 ПАКОЯЎ ДЛЯ МАЙКЛА

*Майкл Джэксан стаў уладальнікам самага вялікага дома ў свеце. Ружовы палац з 75–ці пакояў размешчаны ў прыгарадзе Атланты, штат Джорджыя.*

Суседам Джэксана будзе не менш вядомы Элтан Джон. Дом абышоўся Майклу ў 16,5 мільёна даляраў.

### "НІРВАНА" ВЯРТАЕЦЦА

*Басіст групы "Нірвана" Крыст Наваселіч і ўдарнік Дэйв Гроль выступілі ў Вашынгтоне ўпершыню пасля смерці саліста Курта Кобейна.*

Прычына вяртання славутых музыкантаў — рок-фестываль, дзе яны працавалі сумесна з групай "Сцінкі Пафс".

### ДЗВЕ АХВЯРЫ

*Суд не задаволіў просьбу жанчыны, якая напісала ў заяве, што была зняважана непрыстойнымі вершамі рок-музыканта Дэвіда Лі Роса.*

Дэбора Рус Дэвідсан расказала, што пазнаёмілася з Росам, былым лідэрам групы "Ван Хэлен", у 16 гадоў. Яна ўзбудзіла судовую справу, каб не даць Росу выпусціць альбом з песнямі пра яе. Цікава, што той заявіў: "Я ніколі не быў знаёмы з Дэвідсан". І дадаў, што сам стаў ахвярай сваёй прыхільніцы.

### ДЫПЛАМАТЫ "ПАД ПРЫЦЭЛАМ"

*Аўтамабіль, у якім знаходзіліся паслы Йемена і Амана, трапіў у засаду. Гэта здарылася ў раёне міжнароднага аэрапорта сталіцы Алжыра.*

Паліцыя паведаміла, што аўтамабіль быў абстраляны з аўтаматычнай зброі і спалены. Арганізавалі засаду алжырскія ісламісты.

### ІРАКСКІЯ "АНТЫКВАРЫ"

*На "чорным рынку" старажытнасцей паявіліся прадметы антыкварыяту, захопленыя іракцамі ў час нашэсця ў Кувейт. Два дзялкі арыштаваны ў Лондане, адзін затрыманы ў Швейцарыі.*

У жніўні 1990 года іракскія войскі раскралі схованкі музеяў. Сярод выкрадзеных каштоўнасцей і фамільных рэліквій правіцеляў Кувейту, ас-Сабахаў, у тым ліку два ўнікальныя ізумруды вагой па 262 карата кожны. Новымі ўладальнікамі рарытэтаў сталі два бліжэйшых родных Садама Хусейна — брат Сабаві Ібрагім і стрыечны брат Алі Хасан аль-Маджыд.

